# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 30 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год II. Вільня. Пятніца, 6-га студня 1922 г. № 1 (26).



## Што можа рабіць Віленскі Сойм?

Хутка ўжо мае сабрацца ў Вільні Сойм Сярэдняе Літвы. Задача гэтага Сойму офіцыяльна тлумачылася дасюль, як выяўленьне волі насяленьня, г. зн., што Сойм, які зьбіраецца па ініцыятыве польскае ўлады Сярэдняй Літвы, мае гаварыць аб далейшым лёсе Віленшчыны, або выяўляць волю насяленьня нашага краю, які самімі палякамі прызнаецца за край няпольскі, прызнаецца Літвою, так званаю сярэдняю.

Але ў якім разьмеры і ў адказ на якія пытаньні мае выяўляцца Соймам воля насяленьня?

Перш чым адказаць на гэта, дык бязумоўна трэба паставіць іншае пытаньне, якое само сабою напрашваецца: ці можа будучы Сойм выяўляць волю сапраўды усяго насяленьня нашага краю, а не каго-нібудзь іншага, калі насяленьне гэтае ў Сойме відочна ня будзе прадстаўлена так, як гэтага трэ'было-б дзеля поўнае аўторытэтнасьці Сойму?

Кожнаму ясна, што Беларусы, Літоўцы і Жыды на выбары ў Сойм ня йдуць.

Узятае разам беларускае, літоўскае і жыдоўскае насяленьне краю складае абсолютнейшую большасьць жыхароў краю, воля якіх у Сойме нікім ня будзе прадстаўлена, дык ці-ж можа Сойм, складзены з прадстаўнікоў аднае польскае меншасьці, выяўляць волю каго-нібудзь іншага, апрача самое гэтае меншасьці.

Дапусьцім, аднак, што тыя, хто ўстрымаецца пры выбарах ад галасаваньня, ў рахунак брацца ня будуць і Сойм, лічачы сябе правамоцным, прыступіць да працы. Што ён можа рабіць?

Найхутчэй Сойм, выбраны меншасьцю жыхароў краю, пастараецца выявіць волю якраз гэтае меншасьці—яе жаданьне прылучыць наш край да Польскай Рэспублікі. У гэткім выпадку, задача Сойму будзе невялічкаю і яснаю. Аднак, ня думаем, каб увесь сьвет прызнаў, на аснове рашэньня Віленскага Сойму, законным і нормальным прылучэньне да Польшчы тэй зямлі, якую сама-ж Польшча лічыць Літвою да таго-ж яшчэ й сярэдняю.

Калі-ж Сойм пастановіць прызнаць Сярэднюю Літву сувэрэннаю, незалежнаю дзяржаваю і займецца, скажам, яе констытуцыяй, законадаўствам і г. д., дык гэтак сама нельга згадзіцца з тым, што праца Сойму будзе ісьці гладка і вывядзе край з яго сучаснага палажэньня, офіцыяльна прызнанага ненормальным ужо даўно ў памятнай заяве гэн. Жэлігоўскага, які утварыў самую Сярэднюю Літву сілаю свайго войска.

Ці можа Сойм перайсьці да бягучага законадаўства, калі няма грунтоўных законаў, або, як кажуць констытуцыі дзяржавы Сярэдняй Літвы?

Ці можа заняцца апрацаваньнем констытуцыі Сойм, аб якім ніхто не сказаў яшчэ, што Сойм гэты мае быць Устаноўчым.

А можа устаноўчым ён сам сябе назаве?

Дык і ў такім выпадку, ці можа Сойм, выбраны меншасьцю жыхароў Віленшчыны, даць ёй такую констытуцыю, каб бараніліся ёю інтарэсы й тае большасьці, якая ад выбараў у Сойм устрымалася?

Адным словам, аб тым, што можа рабіць будучь Сойм можна толькі дагадавацца.

## Год разьдзелу.

Першы год разьдзелу Беларусі паміж дужэйшымі суседзямі ўжо прайшоў. Ня гледзячы на тое, што падпісваючы ў Рызе міравы трактат абедзьве староны, вінаватыя ў разарваньні жывога народу на дзьве часьці — і Польшча і Савецкая Расея — гаварылі нешта аб гарантыі правоў нацыянальных меншасьцяў, аднак на практыцы гэта амаль што зусім запомнена было і ў нялічаных нотах, якімі абменьваліся за мінулы год Расея з Польшчаю, гэтае пытаньне ніколі навет і не спаміналася, калі ня лічыць „сэпаратнае“ ноты прэзэса беларускіх народных камісараў Чарвякова да польскага ўраду, аб якой неяк спамінала раз варшаўская газэта „Robotnik“.

Што да жыцьця нашага пад Польшчаю ў мінулым годзе, дык тут рэч ясная: праглынуўшы вялізную беларускую народную масу і жадаючы пераварыць яе ў сваім дзяржаўным арганізьме на палякоў, Польшча ў асобе яе ўраду, усею сваю палітыкаю старалася даказаць, што ў межах яе... ніякіх беларусаў няма.

З гэткага пагляду выцякалі адміністрацыйныя рэпрэсіі проці ўсяго, што толькі сьведчыла аб беларускім нацыянальным руху. Зачыняліся беларускія школы, ліквідаваліся коопэратывы, калі ў іх працавалі беларусы, прэса беларуская, магчымая толькі ў «Сярэдняй Ліцьве» не дапушчалася да адрэсатаў і г. д.

Праз гэта ўсё элемэнты беларускія, верыўшыя раней даволі моцна ў магчымасьць супрацоўніцтва з палякамі пры адраджэньні свайго гаротнага народу і навет далёка зайшоўшыя ў сваім супрацоўніцтве (некаторыя-ж пэрсональна памагалі тварыць так званую Сярэднюю Літву!) пакрысе трацілі сваю *орыентацыю* і, нарэшце, зусім махнулі на яе рукою.

Польскай орыентацыі самым лёкайскім чынам трымаўся (й ведама, што трымаецца яшчэ) адзін толькі П. Аляксюк з кучкаю нанятых ім людзей. Тактыка гэтага ягамосьця ў кірунку да Польшчы пераходзіць межы ўсялякае прыстойнасьці: як-бы дзякуючы Польшчы за тое, што чаўпецца яе адміністрацыяй на „kresach wschodnich“, п. Аляксюк з запалам польскага эндэка выступае за прылучэньне да Польшы спрэчнае Віленскай зямлі, якую палякі самі лічаць усё-ж такі Літвою, хоць і „сьродковаю“.

За гэткую няпрыстойную для беларуса пазыцыю польскага эндэка Аляксюк адтрымоўвае ўсяго толькі такія-сякія кошты на закладаньне розных „цэнтральных“ камітэтаў сваіх „краёвых“ арганізацыяў. Будучы бясьсільным ня толькі спыніць, а хаця-бы аслабіць самаволю польскіх вураднікаў на провінцыі, Аляксюк марнее з сваімі „цэнтрамі“ ў Вільні і, магчыма, што пасьля выбараў у сярэднялітоўскі сойм страціць цікавасьць польскіх паноў да свае, тады ўжо непатрэбнае, працы.

Беларускі рэфэрат пры Дэпартамэнце Прасьветы Сярэдняе Літвы, дзе рэфэрэнтам быў сапраўды шчыры беларус грамадзянін Б. Тарашкевіч пад канец мінулага году зьліквідаваны зусім і гэтым парываецца апошняя нітка супрацоўніцтва з палякамі навет асобных пэрсонаў з беларускага грамадзянства, не пранятага „вцеленёўскаю“ вераю Аляксюка.

Што датычыць жыцьця беларускага ў Савецкай Беларусі, дык праз моцны кардон нельга адтрымаць ніякіх большменш поўных вестак. Газэты бальшавіцкія, хоць і трапляюць іншы раз сюды з Менску якім-нібудзь чынам, але не асьвятляюць справы, як належала-б і падлічваюць толькі сажні дроў, напілованых дзенібудзь дзеля апалу ды разьмер паступленьня харчовага падатку (продналог).

Аднак з некаторых нумароў газэты „Савецкая Беларусь“, што даходзіла да нас у пачатку мінулага лета, ўсё-ж такі выразна відаць было, што культурнапрасьветная праца па тым баку лініі рыжаскага міру разьвіваецца вольна па ўсёй Савецкай Беларусі і беларускія школы не зачыняюцца, як пад Польшчаю, а наадварот інтэнсыўна паўстаюць новыя пры поўнай урадовай падмозе. З провінцыяльных вестак „Сав. Беларусі“ відаць было таксама аб тэатральным беларускім руху ў провінцыі, дзе на некаторых вечарынках сьпяваліся нацыянальныя беларускія сьпевы, якія сьпяваюцца і тут, як напр. „Адвеку мы спалі“, „Ваяцкі гымн“ і інш.

У Менску закладзены Дзяржаўны Беларускі Унівэрсытэт з выдатнейшымі профэсарскімі сіламі. На выдавецтва школьных беларускіх кніжак асыгнованы вялізныя кошты і выдавецтва гэтае вядзецца заграніцаю поэтам Цішкаю Гартным.

Навет і корэспондэнты польскіх часопісаў з Менску сьведчаць, нарэшце, што места з кожным разам набывае сталічнага выгляду.

Самыя ўсходнія часьці Беларусі ў склад савецкай Беларускай рэспублікі дасюль яшчэ ня ўходзяць і ад русыфікацыі іх мусі не пазбаўлены.

Гэткім чынам, хоць і савецкая, але ўсё-ж такі беларуская рэспубліка служыць як-бы нацыянальным асяродкам у той час, як у Заходняй Беларусі ідзе гвалтоўная палянізацыя, а ўва Ўсходняй—наадварот—русыфікацыя.

Бальшавікі ў адыйшоўшай да іх часьці Беларусі як-бы утварылі свой унутраны падзел і ў сэнсе нацыянальна-культурнага жыцьця Беларусь відочна парэзана на тры, а не на дзьве часьці.

У гэтай парэзанасьці наш нацыянальны трагізм. Год гэтага трагізму ўжо пражыты.

Будзем спадзявацца, што надыйшоўшы бягучы 1922 год будзе годам выхаду нашага з таго трагічнага нацыянальнага становішча, ў якім знаходзімся.

К. М.

## Што нам рабіць?

Калі пачыналася ўсясьветная вайна, дык ўсе добра ведалі, што старому прышоў канец, што тое, на чым трымаўся даваенны сьвет, упадзе ў прорву, што пасьля вайны ўсё будзе выглядаць зусім іначай. Але як яно будзе выглядаць, гэтага ніхто ня мог з пэўнасьцю прадбачыць, а кожны думаў пасвойму.

Два паважныя чыньнікі, якія асабліва пакладалі надзею на зьдзейсьненьне сваіх ідэалаў пасьля вайны былі: соцыялізм і нэорэнэсанс, калі можна так сказаць, г. зн. адраджэньне народаў. Проці іх стаяў стары імпэрыялізм вялікіх дзяржаваў.

Справядлівасьць была, як здаецца, на старане першых двох чыньнікаў, а таму выклікала ў перадавога ўсясьветнага грамадзянства большую сымпатыю, і, калі здавалася, што вайне і канца ня будзе, вырабілася думка, што толькі па прынцыпу хоць аднаго з першых двох чыньнікаў, можна будзе прыйсьці да згоды.

Знамянітыя пункты Вільсона, самі па сабе народжаныя можа быць дэмагогічнымі лёзунгамі партыйных групаў Расеі, здавалася, прыносяць сьвету, ўрэшце, новую справядлівасьць. Паўсталі новыя народы да дзяржаўнага жыцьця. Другія народы, ня могшыя гэтага зьдзейсьніць, выправілі сваіх сыноў шукаць праўды за межы сваей тэрыторыі. У тым ліку і мы, беларусы.

І што ж? Некаторым, як Фінам, Эстам, Латышом і, ў значнай мéры, Літоўцам удалося гэта. Другім-жа, а між імі і нам, не пашчасьціла...

Чаму? Можа нам хмары засланілі сонца, як другім у гэты час яно сьвяціла? Можа проектаванае сонца справядлівасьці, якім стала Ліга (цяпер яе лепей было-б назваць Ліха) Народаў, чамусьці ня бачыла нас? Можа ёй трэба было разьясніць? Паказацца, што й мы ёсьць?

Так, і гэта патрэбна было... Але чаму-ж і па разьясненьні так-такі яно на нас і ня глянула?.. Нешта трэба мусіць, яшчэ было паказаць?

Нажаль, сказаў-бы... Усім вядома добра ўсё. Але на бяду сонца ўсё-ж такі ня бачыць, бо яно ня хоча бачыць... Вось у чым няшчасьце... Яно няпраў-

# Беларусы, Літоўцы й Жыды ня йдуць на выбары ў Віленскі Сойм!

дзівае сонца, яно насьмешка над справядлівасьцю...

Яно — гэта старое сонца мілітарызму, якое за пяць месяцаў Вэрсальскай траты сваіх косаў усьпела засьляніць вочы Заатлянтыцкаму філёзофу, прыгожымі назвамі, памірыць яго думкі з скрытымі думкамі нанова арганізованых, з хітраплеценаю ігрою словаў, софістых з Вэрсалю.

І вось сталася... Ліга Народаў — Ліга пераможцаў. Для контынэнту Эўропы Ліга — гэта Францыя. Францыя, якая ачмуціўшыся чадам перамогі, нікога і нічога ня бачыць, дый і ня хоча бачыць... Ня хоча бачыць навет, што сама даваявалася да апошняга.

Але гэта тычыцца больш яе самое дый бяда што, калі пану няўдача—служкам лабы трашчаць...

Лізе Народаў, або Францыі патрэбна па-за Нямеччынай і па бакох бальшавікоў адзіная, моцная, навет каталіцкая Польшча, як сказаў Кэйніс у кнізе „Пасьледкі Эканамічныя міру“. Польшча? Што такое Польшча? Францускі клін між Нямеччынай і бальшавікамі... Гэты клін павінен быць магчыма большы...

Дзеля гэтага самавызначэньне Галіцыі, Украіны цэлай, Беларусі, спор з Літвою, Жэлігоўшчына, сойм у Вільні —пустыя гукі.

Не дзеля прыгожай ігры Падэрэўскага, ці вачэй каго іншага, ці іншае— любіць Францыя Польшчу... Яна любіць свой „клін“, а ўсё другое, пакуль-што, не гадзіцца: быць клінам яно або занадта слабое, або надта абівае парогі ўладароў, ці дужых сьвету.

А раз гэта так, дык наш голас, хаця-бы навет з трыбуны Сярэднялітоўскага Сойму, быў-бы голасам крычачага ў пустэльні... Прыклады: Галіцыя, Верхняя Сьлезія, Аўстрыя.

Наш голас — не!.. Застанёмся няшчаснымі, але затое чыстыя душой. Усе сілы на адукацыю, на ўсьведамленьне народу, а не на пустую нейкую надзею на міласьць з неба...

Для нас усё роўна, хто будзе ў нас, ці Жэлігоўскі, ці хто іншы з Варшавы, яны нам нічога добрага не дадуць.

Наша надзея — гэта вера ў свой уласны, усьвядомлены народ, а таксама ў сусьветную дэмократыю, а не ў цяперашніх камандзераў Эўропы.

Гэта патрэбна ведаць ня толькі для працаўнікоў на Бацькаушчыне, а і загранічным дзеячом.

**І. А.**

## Палітыка і жыцьцё.

Каму няведама, што Мікалай II, заехаўшы падчас вайны — да адступленьня рускіх — у Вільню, сказаў потым знамянітыя словы:

— Цяпер толькі я праканаўся, што Вільня зьяўляецца шчыра-расейскім местам.

Раз сказаў такі аўторытэт, як, быўшы ў той час царом, Мікалай II, дык хто-ж асьмеліўся-б спрачацца з ім? Каму пасьля гэтага ня стала ясна, што Вільня была, ёсьць і будзе... шчыра-расейскім местам, а ўвесь наш беларуска-літоўскі край — краем расейскім.

Але вось прайшло некалькі гадоў.

За кароткі пэрыяд край наш пераходзіць з рук у рукі і становіцца, то нямецкім, то бальшавіцкім, то польскім і г. д.

Ужо больш году, як край наш стаў называцца „сярэдня-літоўскім“, але толькі называцца, бо нічога ў ім ні сярэдня, ні пярэдня, ні задня-літоўскага не прызнаецца, а ёсьць толькі польскае.

Каб цяпер жыў Мікалай II і прыехаў у Вільню, то мусі быць сказаў-бы так:

— Я вельмі зьдзіўлены, што расейская Вільня стала зусім польскім местам.

І хто з нас асьмеліўся-б спрачацца з Мікалаем II. Ясна, што калі сказаў Мікалай, то і „быть по сему“.

Аднак, мы пэўны, што Мікалай II ужо ня можа прыехаць, бо яго няма на сьвеце.

Ну дык што-ж?

Толькі і бяды.

Няма Мікалая II, за тое ёсьць да яго падобныя... і мала чым гэныя паны розьняцца ад Мікалая II, хіба толькі тым, што Мікалаю край наш здаваўся расейскім, а паном гэтым здаецца краем польскім.

Аднак, мала што каму здаецца. Гэтага яшчэ не даволі, каб тое, што каму здаецца, стала законам.

Каб „даказаць“, што беларуска-літоўская Віленшчына ёсьць шчыра-польскім краем, трэба зрабіць нейкія выбары ў нейкі Сойм, які... ну, аб чым тут гаварыць, — выявіў-бы „нязломную“ волю насяленьня Віленшчыны належаць да Польшчы.

І вось, заведзена машына, у якой усе часткі яе—выключна польскія. У працягу больш году машына старанна працуе ў эндэцка-страж-крэсоўскім кірунку, спачатку паціху, а з часам — набіраючы ўсё больш і больш польска - эндэцкай сілы. Рэзультат мы ўсе бачым: няма нічога, што перашкаджала-б анэксіі. Віленшчына стала шчыра польскай, як калісьці была шчыра-расейскай.

Але вось скончыцца калі-небудзь камэдыя з гэтымі шчыра-расейскімі і шчыра-польскімі самадурствамі.

Зразумеюць людзі, што ні Расея, ні Польшча тут у нас у Віленшчыне і ні начавалі, што справа ня у шыльдах на польскай або расейскай мовах, ня ў чыноўніках расейцах, або палякох, а—ў народзе, які жыве ў Віленшчыне, г. зн., у беларусах і ліцьвінох, і толькі пасьля іх у палякох і іншых меншасьцях нашай бацькаўшчыны.

Зьбіраецца Сойм Сярэдняй Літвы... Чаму ні Пярэдняй? Чаму ні Задняй? Ідуць у Сярэдня-Літоўскі Сойм толькі палякі, дый то ня ўсе.

Ідуць яшчэ *аляксюкі*, роўнаю лічбаю—чортавы тузін.

У царскую „Государственную Думу“ чамусьці йшлі усе. Чаму—гэта іншае пытаньне... А у Сярэдня-Літоўскі Сойм чамусьці ня йдуць.

Што за ліха?

Тады была беспрасьветная рэакцыя, а цяпер—горш. Цяпе́р—сярэднявечча.

Тады было — бяспраўе для ўсіх, апрача ісьціна-рускіх, а цяпер—прывілеі для тых, хто паляк. Але тады ня было пастаўлена пытаньне:

Куды далучаешся?

Тады аб гэтым ня пыталіся. А калі ня пыталіся, дык і не адказвалі.

Зьбярэцца Сярэдня-Літоўскі Сойм... Прагаласуе „wcielienie“, да Польшчы.

Адбярэ зямлю нашых сялян—уцекачоў.

Чэсьць яму і слава!

І аддасьць нашую зямлю польскім колёністым.

Ненадоўга!

І прыдуць нашыя людзі, якіх сьпіхнуць з роднай зямелькі ні Мікалаю, ні паляком не удалося і ня ўдасца.

І зробяць яны ўсё пасвойму, як трэба.

**А. М.**

## Пісьмы з Прагі.

*(Ад уласнага корэспондэнта).*

I.

**Прага, 7. XII. 21.**

5 сьнежня тут адбыўся арганізацыйны сход прадстаўнікоў ад студэнскіх арганізацыяў славянскіх народаў, маючы на мэце стварэньне агульна-славянскага студэнскага органу пад назвай: „Студэнская грамада славянскай еднасьці“. Было па адным дэлегаце ад 9 славянскіх студэнскіх арганізацыяў: чэхаў, славакаў, палякоў, беларусаў, украінцаў, маскалёў, баўгараў, сэрбахарватаў і карпататарусаў.

Ад беларусаў уваходзіў студэнт А.

Ініцыятыва, як відаць выходзіла з вядомых расейскіх колаў, бо прысланыя кожнай арганізацыі разам з запрашэньнем проекты статуту будучата органу былі напісаны парасейску і ў мэтах быў пастаўлены дзіўны для такое супалкі пункт: в) падгатоўка дзеяльных, знаючых і гаспадарственна мысьлячых працаўнікоў для справы ўсеславянскай еднасьці і „возстановленія новой Россіи, носительницы всеславянскихъ идеаловъ“.

Як дачуліся пасьля, ў першай рэдакцыі было навет: „новой, великой, мо-

Ўлад. Д. Гутоўскі.

# СЎРДУТ І СЯРМЯГА

Драматычны абраз з песьнямі і танцамі ў 3 актах

*(Пераклад з польскага).*

**Сьпевы ў перакладзе Наталкі Арсеньневай.**

(Глядзі № 25).

**Зьява VII**

**Тыя-ж і Янка.**

**Янка.** А чаго так кулакамі лупіш? Думаў-бы хто, што каго лупцуеш...

**Магда.** Лупцую, ня лупцую, але можа дайсьці да гэтага.

**Янка** (усьмяхаючыся). Ого, глядзеце на яе! Якая злая! І каго гэтак, што?

**Магда.** А хаця-б, напрыклад, цябе.

**Янка** (сьмяючыся). Сапраўды? га, га, га! А гэта за што?

**Магда.** Адно, чакай, аказіі, але табе не жадаю.

**Янка.** Іншаму пастрашкі захавай, бо я бабаў ніколі не баяўся і не баюся. Але чуеш, ці Алеся табе гаварыла, што на гэтым тыдні паедзем у Варшаву? Я ўжо грошы адлажыў на дарогу.

**Магда.** Ужо-ж ня першы раз гэта чую, сто разоў ужо аб гэтым гаворыш з таго часу як адной клепкі ў галаве не хапае. Засьвярбелі табе грошы пэўна, што маеш іх трохі.

**Янка.** Вядомая рэч, каб ня меў, дык ня ехаў-бы. І не шкадую, бо на гэта зьбіраў. А яшчэ і для Алесі хопіць, каб яе выадукаваць.

**Алеся.** Татка, я ўжо гэтага не хачу.

**Магда.** Аб сваёй ты адукацыі падумаў-бы лепей, чым аб ёй—бо штораз ты больш дурнееш.

**Янка** (зьдзіўлены). Чаго кідаешся васою ў вочы? Што-ж ты думаеш—я заўсёды тут буду сядзець? Як надойдзе пара, то як відаць, кіну гаспадарку, куплю сабе ў Вільні дом, убярuся палюдзку, абую боты без халяваў і адзену капялюш. А і цябе, Магда адшліфую, што называецца!

**Магда.** Ужо гэтага я не патрабую і, як мне Бог, мілы з вёскі а ні рушуся!

**Янка.** Ой рушышся, бо я гэтак хачу, а ты ведаеш, што як я хачу, дык гэтак мусіць і быць. У вёсцы не хачу жыць, бо надта грызуць суседзі.

**Магда.** Бо маюць рацыю. Калі Бог табе розум адабраў, дык лепш на імшу сьвятую дай, каб табе яго вярнуў.

**Янка** (загневаўшыся). Бачыце—баба, будзе мяне, вучыць! А што-ж ты думаеш, што я пазволю табе езьдзіць мне па носе? Як ня сьціхнеш, дык паглядзіш!

**Магда.** Што-ж я пагляджу? Заусёды толькі цябе буду бачыць.

**Алеся** (хватаючы Янку за руку). Татка ня гневайцеся.

**Магда.** Ну, пакажы, пакажы! Усяляк, гэтага ў цябе ня купляць! Табе ж гэта не пяршыня.

**Янка.** Зачыні ляпу!

**Магда.** А вот, не зачыню, і што маю на жываце, тое й скажу, так—скажу, як мне Бог мілы, бо ўжо абрыдла. А што-ж ты сабе думаеш, што я ня матка, не твая жонка, што? І я маю права да маіх дзяцей. Выслаў Пранука, цяпер ізноў хочаш Алесю выслаць і гаспадарку кінуць, каб усё змарнаваць. А калі я ня дам; і хто-б хацеў-бы сюды ўлезьці, вочы таму выдзярла-б!

**Янка.** Ты мне не перастанеш брахаць?

**Алеся** (устрымоўваючы бацьку). Татка, супакойцеся,... не зьневажайце Бога.

**Магда** (падыходзячы). Ну, далей, падыдзі толькі!

**Янка** (падбягаючы). Ах ты, старая чараўніца! Будзеш ты мне яшчэ нос дзёрці! А бачыш, (б'е) а бачыш!

**Магда** (крычыць). А, Божа мой! Ратуйце людцы заб'е. Ратуйце мяне! Ратуйце!...

**Янка** (ўвесь час лаючыся). А бачыш, а маеш!

**Алеся** (баронячы). Татулька, супакойцеся.

**Магда** (заходзячыся ад плачу). А Божа! людцы, ці ня чуеце? (уваходзяць: **Каспар, Мацей, Рыгор** і інш.).

**Зьява VIII.**

**Тыя-ж—Каспар, Мацей, Рыгор.**

**Каспар.** Што тут робіцца? (Адцягвае Янку і засланяе сабой Магду) Янка, апомніся.

**Магда** (востра). А вам што, чаго сюды ўмешваецеся. Янку ўсе можна, бо ён мой муж, а вам чаго?

**Каспар.** Бачылі бабу. Толькі што крычала, а цяпер маеш.

**Магда.** Што тут утыкаеце свае тры грошы. Што я вас прасіла? Пакуль цэлы, ідзеце, скуль прыйшлі.

**Мацей.** Але-ж, братавая, на міласьць Божую пакінь! Вы тут дзёрліся, ажно па ўсёй вёсцы чутно было, а калі Каспар хоча вас бараніць, дык вы глупствы выдумваеце.

**Рыгор.** А гэта-ж ведама, каб я так здароў быў!

**Янка.** Вось спрэчная баба, што аж ня ведаю...

**Магда.** А нашто мяшацца, старому можна, а вам што ад мяне.

**Каспар.** Добра, добра; на другі раз, каб вас Янка і забіў, то я і слова ня пікнуў-бы.

**Мацей.** Дайце супакой! Ось, прышлі да цябе, мой Янка, ў сваты! Ці аддасі Алесю за Тамаша, ці не?

**Янка** (абураны). Вось кара Божая! Ці гэта Алеся выцірка якая, ці што? Я не на тое грошы зьбіраў, каб якомусь дурню дзіркі латала. Бачыце іх!...

**Мацей.** Ой, Янка! Янка! не пагарджай мужыком, яшчэ можа сам будзеш прасіцца...

**Янка.** Недачакаецеся вы, каб я прасіўся. Скарэй мяне зямля пакрые, чымся я каго буду прасіць.

**Мацей.** Не заракайся, бо Бог хоць цярплівы, але справядлівы.

**Алеся** (абыймаючы бацьку ногі). Татка, бойцеся Бога!

**Янка.** Пашла вон, бо яшчэ...

**Мацей** (прытрымоўваючы). Адно дай супакой, бо гэта дзяўчына нічаму нявінна.

**Рыгор** (зьбіраючыся выходзіць). Мацей, ідзём, я яшчэ такі маю гонар свой і ня дамся на зьдзек, каб я так здароў быў. А калі Янка хоча панічоў, дык няхай іх сабе шукае.

**Мацей.** Ой, Янка, яшчэ Бог цябе пакарае, бо і Пранука вывяў на злыдня і сам ня лепшы!

**Янка.** Адно, Пранукам губы не выцірай. А калі табе маркотна, дык заўтра еду ў Варшаву. Магда, як пачне сьвітаць, зараз выедзем.

**Мацей.**

Хто ня любіць, не шануе
Бацькаўшчыны мілай,
Той жыцьцё сваё змарнуе,
Дарма страціць сілы...

гучей Россіи", але гэтыя словы былі выкаркнуты посьле заявы польскага дэлегата: „а што-ж будзе з Варшавай?" Як аказваецца, перад гэтым сходам былі яшчэ два сходы: ў лістападзе перадарганізацыйны з расейцаў, карпата-русаў, чэхаў, палякоў і баўгараў і 3 сьнежня з тымі самымі прадстаўнікамі, што і 5-га, толькі без беларусаў.

Беларуская студэнская арганізацыя, дастаўшы запрашэньне і проект, моцна вітаючы самую ідэю еднасьці, не магла (ясна) згадзіцца з такой тэндэнцыяй кірунку статуту і выбраўшы свайго дэлегата, дала яму наказ паставіцца проціў гэтага ўсімі магчымымі спосабамі і выказаць пагляд беларускай арганізацыі на мэту супалкі, якая павінна быць аб'яднаньнем студэнтаў вольных, роўных славянскіх народаў і перасьледаваць агульную для усіх мэту, а ня служыць цацкаю ў руках лоўкіх палітыкаў аднае якое-небудзь нацыі.

Папярэдне быў зроблены контакт з найбольш дробнымі арганізацыямі.

І вось на сходзе тэндэнцыя статуту выявілася ў поўнай меры. Прадстаўнік ад расейскіх студэнтаў Шпрут, заявіў, што ён ня можа прызнаць ніякіх „малороссов і бѣлороссов", бо мэтай тых, якія яго прыслалі зьяўляецца якраз барацьба з гэтым (відаць, ня ў тыя дзьверы папалі, не па адрэсе). Ну, вядома „карпатороссов" Шпрут дапускае на сход свабодна.

Цэлая бура паднялася з-за афіцыяльнае мовы супалкі і з-за вышай прыведзенага пункту. На папярэдніх паседжаньнях расейцы, ня гледзячы на тое што поле дзеяльнасьці супалкі мае быць толькі ў Ч.-Славакіі (у другіх краёх толькі аддзелы) выстаўлялі, каб такою моваю была расейская, і толькі пасьля вялікай спрэчкі і такіх аргумэнтаў, як выхад некаторых дэлегатаў са сходу 3-га сьнежня, ўжо зусім у прынцыпе рашылі перайці на адну чэскую мову (нішто сабе эволюцыя!)

Адным словам туга справа наладжваецца. Для апрацоўкі статуту выбрана камісія з прадстаўнікоў праціўных групаў, якая на пасяджэньні (8. XII.) зробіць агульны даклад.

У камісію ўваходзіць і беларускі прадстаўнік.

II.

У Празе шмат расейскіх эмігрантаў. Пераважна правыя эс-эры.

Ідзе праца, сварацца, лаюцца, як звычайна.

У палове мінулага сьнежня два важныя пытаньні занялі публіку: рашэньне нацыянальных пытаньняў у Расеі і магчымасьць згоды з бальшавікамі.

Па першым пытаньні, быўшым нейкі час таму навет трошкі і цікавым адбылося шмат мітынгаў, сходаў, што давалі, разам з справядлівымі дамаганьнямі нацыянальных групаў, месца і для софістыкі быўшых часова зораў Расеі, ня могшых у глыбіне душы згадзіцца ўсе-ж з дапушчэньнем вольнага рашэньня народамі свайго лёсу.

Так гэтае пытаньне і завяла, ня ўскураўшы ні расцьвісьці, ні адцьвісьці. Проста завяла. Ня цікава, так сказаць.

Дало месца другому, паважнейшаму.

Зноў пачаліся мітынгі, сходы. Трэба што-небудзь зрабіць. Выступаюць: анархістыя, проста сяляне, навет быўшыя міністры Вранэгля, ну і... эс-эры.

Аказваецца, што ўсё кліча ўцекачоў дамоў, даказваецца, што трэба мірыцца з ліхам... Чутно, што монархістыя асабліва стаяць за гэта. Нарадзілася навет паважная група, выдае журнал: „Сьмена вѣх", нараджаецца думка—ідэя—„накапліваньня". Гэта ня толькі ў Празе, а і ў іншых седалах „прыяцялёў культуры".

Толькі, здаецца, адны эс-эры і складаюць болей паважную сілу, сілу праціўленьня, ну, а можа і іншыя „ўрады".

III.

Саюз славянскіх студэнтаў, толькі нарыхтаваўшыся, распаўся.

Галоўнай прычынай быў усё той самы пункт аб адбудаваньні вялікай Расеі, да якога яшчэ велікарускімі студэнтамі прыбаўлена: насіцельніцы славянскіх ідэалаў, з якім не маглі згадзіцца, галоўным чынам, прадстаўнікі беларускіх, украінскіх, і польскіх студэнтаў, якія зложылі заяву аб нязгодзе і выхадзе з арганізацыі.

Пункт гэты ўдалося правясьці, дзякуючы адсутнасьці аднаго з прадстаўнікоў, праціўных яму, якому ня сказана было, дзе адбудзецца чародны сход.

З выхадам гэтых трох прадстаўнікоў, арганізацыя перастала праяўляць жыцьцёвасьць, а затым і зусім самае істнаваньне.

Маецца думка стварыць гэтакую арганізацыю на новых асновах, але ініцыятыва ўжо йдзе з другога боку.

19. XII. 21. І. А.

## Беларуская сэмінарыя ў Дзьвінску.

Нам перадаюць, што Лацьвійскі Сойм зацьвярдзіў каштарысы на ўрадовую беларускую настаўніцкую сэмінарыю ў Дзьвінску. Сэмінарыя мае быць адчынена з жніўня 1922 году.

За недахватам на месцы настаўніцкіх сілаў, будуць запрошаны беларусы-пэдагогі з Вільні.

## Рэзалюцыя амэрыканскіх беларусаў.

9-га лістапада 1921 г. адбыўся бурны беларускі мітынг у Чыкаго. Галоўнае пытаньне было аб перасьледаваньнях, якія церпіць беларускі народ ад польскіх імпэрыялістых на забранай імі часьціне Беларусі.

Мітынг прыняў рэзалюцыю з протэсгам супроць польскіх окупантаў. Старшынёю на сходзе быў Іван Жук. („Б. В.").

## Дэкларацыя Беларускага Ўраду ў справе выбараў у Віленскі Сойм.

Рада міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі вынесла 6 сьнежня 1921 г. такую пастанову ў справе абвешчаных польскім урадам выбараў у Віленскі Сойм: „Бяручы пад увагу: 1) што тэрыторыя так званае „Сярэдняе Літвы" (Віленскага краю, названага палякамі „Сярэдняю Літвою") штучна выразана з цэлага краю і не становіць самастойнага арганізму, 2) што выбары ў Сойм маюць адбывацца пад польскай окупацыяй і пад націскам окупацыйнай улады, і 3) што актыўныя беларускія сілы, гэтаю ўладаю загнаны ў турмы, концэнтрацыйныя лагеры і на эміграцыю за кардонам, а тыя, што засталіся ў краі, тэрорызованы,—пастанаўляецца: выбары ў Віленскі Сойм актыўна бойкатаваць". („Б. В.").

# З ПРЭСЫ.

### АБ ЖЫЦЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ СТАЛІЦЫ.

„Gaz. Wil." надрукавала цікавую корэспондэнцыю п. І. L. з Менску. Фактычныя даныя корэспондэнцыі досіць шырока ілюструюць жыцьцё сталіцы Савецкай Беларусі і іх мы ня лічым за лішняе падаць да ведама нашых чытачоў; корэспондэнт „Gaz. Wil." піша:

„Штораз, то ўсё больш Менск набірае выгляду сталіцы, што праўда, гаспадарства яшчэ няпрызнанага ні аднэю эўропэйскаю дзяржаваю...

Павярхоўны выгляд вуліц і дамоў Менску ня вельмі зьмяніўся, знішчэньні, выкліканыя ваеннымі падзеямі і пажарамі ў часе эвакуацыі места праз польскае войска памаленьку заціраюцца—зрэшта, можа вока сталага жыхара прывыкла да іх і нат іх ня прыкмячае—адным словам вуліцы і дамы засталіся на старых мясцох, тротуары, разумеецца, вельмі запруджаны „пролетарскаю" публікаю савецкай сталіцы, але апрача гэтага ніякіх павярхоўных зьменаў няма.

Сталічнага характару Менск набраўся нятолькі дзеля прысутнасьці там высокага ўраду—Беларускіх Народных Камісараў — нашае места сталася

---

Не, нікога, мілы Божа,
Не пакрыўдзіць праца...
Той жыве толькі, хто можа
За ўсё чыста ўзяцца!

Хто-ж вышэй захоча быці
За братоў, за родных
Тых ня грэх і пазабыці,
Праклясьці нягодных!

(Усе паўтараюць апошнія два радкі. Прасьпяваўшы зьбіраюцца выходзіць).

*Заслона.*

### АКТ II.

(Сцэна прадстаўляе пакой, хораша прыбраны, канапы, некалькі высьціланых крэслаў і г. д. На стале розныя паперы і кнігі, звончык, трое дзьвярэй, двое з левага боку, адны ў глыбіні ўваходу—з правага боку вакно.

### Зьява 1

Пранцішак—Карусь—Адварды—Зыгмунт. (Ходзяць або сядзяць у розных позах, заняты гутаркай).

**Адварды** (сьмяючыся). Ха, ха, ха! а ты лоўка папісаўся.

**Пранцішак**. Паненка, разумеецца, спусьціўшы вочкі адказала: „Кахаю".

**Карусь**. Гэтага табе толькі было трэба.

**Пранцішак**. Ня трацясы часу, пацалаваў яе ручкі, сказаў яшчэ некалькі пекных словаў і ўсё добра.

**Адварды**. Здаецца яна па вушы ў табе закахаўшыся.

**Пранцішак**. Проста да сьмеху няраз даходзіць яе каханьне.

**Карусь**. Бо нічога няма больш камічнага, як чуць уздыхі, шэпты, глядзець, як нясьмела-спушчае вочкі, або пераварочвае імі. Ах, Божа мой, гэта больш чымся сьмешна.

**Адварды**. У кожным выпадку, трэба мець цывільную адвагу, каб класьці здаровую галаву пад Эвангэлію.

**Пранцішак**. Як, калі і з кім.

**Карусь**. У гэтым выпадку ты маеш рацыю, і хаця я не староньнік жаніцьбы, знайшоўшы аднак падобную сыльфіду, а ясьней кажучы гэткі пасаг, хто ведае, ці не спакусіўся-б.

**Адварды**. Скажы аднак, як гэта ўся гісторыя скончылася.

**Пранцішак**. Ну, нічога, як звычайна. Пайшлі да мамы і таты, ўсё сказалі і адтрымалі дазвол. За тыдзень, гэта значыць, у нядзелю, адбудуцца заручыны, а за тры месяцы наш шлюб.

**Карусь**. Брава, брава, няхай жыве наш Пранцішак і наіўная яго дама—Зося! Бо, што наіўная, дык наіўная, праўда? Ах, мой Божа, што з табою, Зыгмунт, што ты бяз гумару.

**Адварды**. А можа ён зайздросьціць, бо і ён у адносінах да яе, нейкія меў паважныя мэты.

**Карусь** Але, праўда, праўда, і я нешта аб гэтым чуў.

**Зыгмунт**. Зусім вы мыліцёся. Не таюся перад вамі, што быў час, калі я думаў аб паньне Зосі, быў-бы вельмі шчасьлівы, каб яка мяне пакахала. Аднак Пранцішак ёй спадабаўся і я адышоў на задні плян. Я пэвен, што Пранцішк, як сумленны і ганаровы чалавек, дасьць ей тое шчасьце, якое я ёй меў даць.

**Карусь**. Які ты вельмі сьмешны.

**Зыгмунт**. Мне вельмі прыкра, што вы кідаеце пад ногі й іронізуеце над гэтымі сьвятымі пачуцьцямі кабеты, якая шчыра кахае, і, праз што, заслугоўвае агульную пашану.

**Карусь** (абражаны). Гэта, нешта накшталт „monitum".

**Зыгмунт**. Разумейце гэта як хочаце, для мяне ўсё роўна. Сядзеў я спакойна, бо бачыў, што адзывацца да вас, стоячы ў абароне кабеты, было-б дарэмным і бессэнсоўным, але, калі закранулі тут мяне, сказаў вам тое, што хацеў Пpануку сказаць асобна, каб не паддаваўся вашым уплывам і ня псаваў свайго характару.

**Адварды** (хутка ўстаючы). Мне здаецца, што як Пранцішак, так і мы, маем права лічыць сябе за людзей дарослых, дзеля чаго надобныя ўвагі зусім не на месцы.

**Зыгмунт**. Мне здаецца, што абавязак кожнага ганаровага чалавека, бараніць аўторытэт кабетаў.

**Карусь**. Гэта ўжо пераходзіць граніцы прыяцельскай дружбы і ты добра ведаеш, чым пахне падобны спосаб гутаркі.

**Зыгмунт**. Адважны чалавек дуэлі не баіцца

**Адварды**. Вытлумач! Што гэта мае значыць?

**Пранцішак**. Мае дарагія, вы ў мяне ў гасьцёх і я гневацца пазволіць не магу.

**Карусь**. Дык няхай возьме свае словы назад.

**Пранцішак**. Але-ж, мой дарагі! Што тут браць назад? Я тут быў і нічога ня чуў.

**Адварды**. Ён запярэчыў нашай сьмеласьці!

**Пранцішак**. Як бачу, не зразумелі вы адзін аднаго і ўся рэч; усё-ж я вас прашу пагадзіцца, бо што вам з гэтага прыбудзе! Зыгмунту належыць першы стрэл, бо пэўна пісталетамі захацелі-б распраўляцца.

**Карусь**. Як, яму?

**Пранцішак**. Вельмі проста, бо такія ўжо правы. Першы стрэліць, пачастуе куляй, і калі застаніцёся пры жыцьці, што яшчэ пытаньне, дык справа ня будзе зусім зьліквідована. Пасьля, няпрыемнасьці, цяганьне па судох; вось, падайце сабе рукі, і будзьце ў згодзе. А ўрэшце, з прыязьні да мяне, бо такая вестка разойдзецца з рознымі комэнтарыямі і найгорш з усяго гэтага выйду я...

**Карусь** (падае неахвотна руку). Даю слова што толькі дзеля цябе гэта раблю!

**Адварды**. І я таксама.

**Пранцішак** (дзякуючы ім). Вельмі вам удзячан. Урэшце, бачыце, кожны мае свой погляд на жаніцьбу. Але лепш ня будзем вяртацца да рэчы, бо яна нас нанова можа пасварыць!

**Карусь**. Маеш рацыю, дамо гэтаму супакой! Ось, лепш нам скажы, як твае бацькі на гэта глядзяць. Ці пахваляць твае замеры? Пэўна будуць на тваіх заручынах?

**Пранцішак**. Гм, гм... мае бацькі... Пэўна-ж, бо хто-б не пахваліў, хаця-ж з гэтага боку я маю поўны дазвол.

**Карусь**. Тваіх бацькоў з маімі ніяк параўнаваць ня можна; мае страшэнна баяцца, каб я якога глупства ў гэтым выпадку не зрабіў. Хто іншы—але ня я!!

**Адварды** Мусіш быць іх пястунчыкам.

**Пранцішак**. А, так!

**Карусь**. Канечна хацеў-бы іх пазнаць, бо гэткія бацькі гэта нешта нязвычайнае. Праўда, ты мне ў гэтым не адмовіш?!

**Пранцішак** Табе, гм... але разумееш, сумляваюся, каб яны мелі час сюды прыехаць, страшэнна занятыя!

**Адварды**. Загадчыка могуць пакінуць у двары, а свайго пястуна павінны ашчасьлівіць сваей прысутнасьцю пры гэткім важным здарэньні.

**Пранцішак**. Бацька мой таго праканаНьня, што

сталіцаю, перад усім, дзеля адчыненьня ўвосень гэтага году нацыянальнага Беларускага Унівэрсытэту, якім цяпер нашая рэспубліка гэтак хваліцца, і аб якім мясцовая прэса гэтак любіць пісаць.

Пэўна-ж, у звязку з істнаваньнем у Менску вышэйшай школы, хаця-б і вельмі сумнага кругазору, ў месьце даецца заўважыць значны наплыў студэнцкай моладзі. Большая частка ўсіх слухачоў унівэрсытэту належыць да хаўрусу камуністычнае моладзі і больш занята справай пасеву камунізму сярод загранічнай моладзі, г. зн. перад усім, польскай і літоўскай, чымся навукай, аб якой вельмі мала чутно. Бязупынныя палітычныя зьезды і мітынгі, выбары дэлегатаў на зборы камуністычнае моладзі ў Расеі, або заграніцай, выдавецтва свайго органу прэсы з выключна бальшавіцкім характарам — вось што займае думкі студэнтаў Менскага унівэрсытэту, не пакідаючы ім часта ахвоты на самыя прымітыўныя, хаця-бы, унівэрсытэцкія навукі.

Апрача гэтага ў агульнай палітыцы нашае беларускае ўлады лаецца заўважыць тыя самыя зьмены, што і ў савецкай Расеі: лінія камунізму, якая дагэтуль прыкладалася да усяго без засьцеражэньняў, аканчальна заламалася і мы бачым усюды значныя уступкі ад папярэдняй праграмы камунізму. Так, дагэтуль нашая ўлада ўрадова абвесьціла прызнаньне дробнай уласнасьці, вольны гандаль прынцыпова стаў дазволеным (недахват тавараў і харчоў гэты дазвол зусім абясцэнівае), прадпрыемствы і рамёслы гэтак сама зноў істнуюць.

Не зважаючы, аднак, на гэтыя загады, прамысловае і гандлёвае жыцьцё адраджаецца вельмі павольна, дзеля таго, што насяленьне ня верыць у шчырасьць савецкае ўлады і ня хоча рызыкаваць — а да гэтага, брак гатоўкі і крэдытаў у значнай меры стаіць на перашкодзе, каб пусьціць у рух, хаця-б, самыя найпрымітыўнейшыя варстаты.

Харчавая справа з кожным днём набірае вострасьці; дзеля поўнага недахвату харчоў у апошніх днёх лістапада зачыніліся ўсе бясплатныя кухні для безработных — рабочыя ў кастрычніку адтрымалі апошні раз харчовыя пайкі.

У горадзе паўстала шмат новых коопэратываў, але ўсе яны займаюцца вельмі шырокай спэкуляцыяй на таварах, а харчы там прадаюцца не танней, як на мясцовых рынках.

Безработіца і зьвязаная з гэтым бяда ў месьце і ваколіцах павялічваецца з кожным тыднем: апошнімі часамі лік безработных папоўніўся інтэлігэнцыяй, якая, з прычыны зьменшаньня ліку урадоўцаў у дзяржаўных установах, апынулася, амаль, не на бруку і бяз усякае надзеі на будучыну.

Прымусовыя работы гэтак сама скасованы, а неабходныя работы аддаюцца цяпер прыватным падрадчыкам пры варунках выкананьня ў тэрмін аддадзеных работ — дзеля чаго, напрыкл., усе чугуначныя склады, станцыйныя будынкі, масты цераз Сьвіслач скончаны зусім і даведзены да нормальнага палажэньня.

Найбольш не дамагае на Беларусі чугуначны рух — пасажырскія і гаварныя цягнікі, якія прыходзяць у Менск і адтуль адходзяць, курсуюць гэтак нерэгулярна, што ня можа быць ніякай мовы аб якім-колечы расьпісаньні язды цягнікоў; транспорт прыватных тавараў чуць ня зусім спыніўся. Прычыною гэтаму ёсьць, перад усім, адсутнасьць апалу на чугунках, папсаваныя паравозы і адсутнасьць шмараў. Гэтак апошнімі часамі рух цягнікоў на лініі Менск — Гомель стрыманы зусім з прычыны западу часовага мосту на Беразіне пад Бабруйскім.

Цяпер беларускі ўрад распачаў направу старога мосту, зьнішчанага ў часе адходу польскіх войскаў, але калі работы будуць закончаны і пушчаны чугуначны рух, трудна сказаць, з прычыны поўнае адсутнасьці неабходных матар'ялаў і мастовых частак"...

# Палітычная хроніка.

*Нядзеля*, 1 *студня*.

— Савецкі ўрад разглядае фінляндзкіх грамандзян, як прадстаўнікоў варожае дзяржавы.

— У Эгіпце паўстаньне. Порт-Саід і Суэц абвешчаны на ваенным палажэньні.

— Паводлуг вестак з Уладывастоку, савецкія ўлады пакідаюць Хабараўск. Войскі Чыцінскае савецкае рэспублікі панесьлі пабой. З Масквы выслана значная ваенная падмога.

— Лёйд-Джордж і Брыян прынцыпіяльна пастанавілі пачаць перагаворы з саветамі.

— Савецкія ваенныя караблі курсуюць каля берагоў Фінляндыі з мэтаю разьведкі.

— Згодна з дэкрэтам аб амністыі ў Вэнгрыі выпушчана з вастрогаў 699 засуджаных.

— З Новага Году ў расейскай чырвонай арміі ўводзіцца ў сілу новы вайсковы статут, які зьяўляецца амаль што копіяй старога дарэвалюцыйнага статуту. Улада начальнікаў будзе незалежнаю ад салдацкіх арганізацыяў.

— Лёйд-Джордж 29.XII. 1921 прыехаў у Кан.

— Брыян зьвярнуўся да ўрадаў Англіі, Італіі, Злучаных Штатаў, Японіі й Бэльгіі з просьбаю прыслаць прадстаўнікоў на конфэрэнцыю ў Кан на 6 студня. Праграма конфэрэнцыі закране пытаньне аб контрыбуцыі, а таксама аб скліканьні міжнароднае конфэрэнцыі.

— Эгіпэцкі кабінэт падаўся ў адстаўку ў знак протэсту проці цяперашняй палітыкі ангельскага ўраду. Паўстанчы рух расьце. Дамы ангельцаў падпальваюцца.

— У некаторых мясцовасьцях Ірляндыі йзноў неспакойна. Здараюцца спатычкі паміж паліцыяй і ірляндзкімі незалежнікамі (сінфэйнэрамі).

— Былы французскі прэзыдэнт Пуанкарэ выпусьціў кнігу, ў якой даказвае, што немцы дасюль яшчэ небясьпечны дзеля эўропэйскага міру.

— Італьянскія газэты зьмясьцілі тэкст прэлімінарнага расейска-італьянскага гандлёвага дагавору, якім прадугледжана заключэньне аканчальнага трактату ў срок 6 месяцаў. Падпісаны такі самы гандлёвы дагавор з сав. Украінаю.

— Камісія па контрыбуцыі пастанавіла знайсьці спосабы прымусіць Нямеччыну даставіць фабрычны кокс, патрэбны Францыі.

— У заснованы літоўцамі Ковенскі Унівэрсытэт запрашаюцца з-за граніцы гэткія профэсары, як Петражыцкі, Браун, Зялінскі і інш.

— 9 зьезд саветаў прызнаў добраю палітыку рады народных камісараў за мінулы год.

— Красін у гутарцы з адным лёнданскім корэспондэнтам выказаў пэўнасьць, што Расея праз гадоў 15 будзе магчы заплаціць усе свае даўгі.

— На пасяджэньні маскоўскае рады народных камісараў проф. Багалепаў, робячы даклад аб катастрофічным фінансавым палажэньні Расеі, заявіў, што друкаваньне папяровых грошай каштуе даражэй за іх номінальную вартасьць.

— „Харьковския Известия" паведамляюць аб тым, што ў Жытоміры раскрыта пятлюраўская арганізацыя, меўшая сувязь з атаманам Цюцюнікам. Расстраляна 12 чалавек, у тым ліку 2 кабеты.

— У Бэрліне савецкі прадстаўнік Ламаносаў і прадстаўнік Эстоніі падпісалі дагавор, паводлуг якога савецкі ўрад заказвае ў Эстоніі 200 паравозаў на суму 1.430 тыс. даляраў. Заказ гэты фінансуецца нямецкім банкам у Бэрліне.

— Ленін на 9 зьезьдзе саветаў заявіў, што „чрезвычайка" павінна быць абмяжована ў сваёй дзейнасьці толькі справамі палітычнымі.

*Панядзелак*, 2 *студня*.

— У Вене сабралася шмат украінскіх эмігрантаў у зьвязку з працаю Пятрушэвіча, які стараецца пагадзіць Пятлюру з Вышываным,

---

калі сам не дагледзіць, дык усё пойдзе марна, (уваходзіць Якуб, аддаючы білецік). Ага; якісь білецік. (Адчыняе).

**Карусь**. Што чуваць?

**Пранцішак**. Ах, нічога... невялічкая справа. Да пабачаньня. За пяць мінут вярнуся! (Выходзіць).

**Карусь**. Да пабачаньня.

**Адварды**. Чакаем.

**Зыгмунт**. Пачакай, Пранцішак, я таксама пайду. (Здалёку) Да пабачаньня! (Выходзяць).

**Зьява II.**

**Карусь — Адварды.**

**Карусь** (іронічна). Да прыемнага! Скажы мне, мой дарагі, што Пранук мае з таго, што задаецца з гэтым маралістым?

**Адварды** (рухаючы плячыма). Гэта яго асабістая нейкая ненормальнасьць.

**Карусь**. Але-ж гэта немагчыма! З ім заўсёды трэба быць асьцярожным!

**Адварды**. Трудна забараніць Пранцішку прымаць яго ў сябе, трэба цярпець, а цяпер калі Пранцішак абзаводзіцца пасямейнаму, парываць з ім нязручна!

**Карусь**. Гэта праўда!

**Адварды**. Будзе дзе правесьці час, пагутарыць, загасьціцца, а ўсё на карк мужа.

**Карусь**. Ведама, што варта, каб я так здароў быў.

**Адварды**. Аднак пакуль Пранцішак вернецца, пойдзем у яго пакой па чарцы зробім. Гэта можам сабе пазволіць, навет і ў няпрысутнасьці гаспадара!

**Карусь**. А, добра. (Выходзяць налева).

**Зьява III.**

**Янка — Магда — Алеся — Якуб.**

**Якуб** (за кулісамі). Тут пачакайце; туды ўваходзіць нельга!

**Магда** (за кулісамі). Але-ж не спрачайся, калі нельга, дык нельга!

**Янка** (за кулісамі). Ты ўжо ня ўмешвайся, я ведаю, што раблю. (Уваходзяць. Магда ў доўгай сьвітцы, адзеўшыся павясковаму. Усе з клумкамі, торбамі, каторыя кладуць пры дзьвярох. Янка сьмялей, кабеты нясьмела разглядаюцца і з цікавасьцяй усё разглядаюць).

**Янка** (уваходзіць). Гэта мне падабаецца, каб нельга было мне ўвайсьці да майго Пранука!

**Якуб**. Але-ж пан нікога не пазваляе ўпушчаць у пакой. Як хто мае інтэрас, дык мусіць у канцэлярыі чакаць!

**Магда** (хоча яго пацалаваць у руку). Калі я прашу вас.

**Янка** (устрымоўваючы Магду). Ты не адзывайся, а рабі тое, што я табе скажу, я за ўсё адкажу!

**Якуб** (зьдзіўлены выходзіць).

**Янка** (разглядаючыся). Каб яго кадук, як жыве, от жыве. (Да ўсяго дакранаецца, за ім кабеты).

**Магда**. Зусім усё, як у нашага пана!

**Янка** (сядаючы на крэсла). А якое гэта ўсё мягкае!

**Алеся** (сядае спалохаўшыся). Ай, яй, я завалюся!

**Магда**. Слухай стары, гэта пэўна ўсё на пружынах.

**Янка**. Ну, ведама. (Гадзіньнік стоячы пад столом, б'е гадзіну і грае).

**Алеся** (зьдзіўлена). Мама, мама, чуеце?

**Магда** (прыслухоўваючыся). Стары, як гэта грае?

**Янка** (прыслухоўваецца, пасьля падыходзіць да гадзіньніка). Каб яго кадук, вось майстар, гадзіньнік, а гэтак грае!

**Алеся** (прыглядаючыся). Як гэта ен грае, калі нігдзе кольбы ня відаць? Бо як на катарынцы граюць, дык заўсёды нехта круціць.

**Магда** (падглядаючы). А можа тут хто схаваны?

**Янка**. Эй, дурная — гэта ўжо само грае!

**Алеся** (зьдзіўлена). А, Божа! — Вось дык сапраўды цуды!

Калі ладна скрыпкі гралі
Ім цымбалы памагалі, —
Гэта ўсё я знала,
Але гэтакай музыкі
У вёсцы ня бывала.

Ці смыком тут нехта водзіць,
Ці хто голасам заводзіць
Хараша, праўдзіва?

Мілы, татка, хто мне скажа
Што гэта за дзіва?

**Магда**. Ці ня чуеш, бацька кажа, што гэта так само грае.

**Алеся**. А Божа! І гэта ўсё Пранукова.

**Магда**. А вядома.

**Янка**. Ну і што-ж, Алеся? Хочаш тут астацца, ці не?

**Алеся**. Ці я ведаю? Рада-бы й ня рада.

**Янка**. Памалу з усім асвоішся і будзеш яшчэ дзякаваць; цікава, як гэта Пранук зьдзівіцца, калі нас тут пабачыць. Вось будзе рад. Ой, выкалю я Мацею вочы, выкалю, як мне Бог мілы! Няхай глядзіць на сябе, а да іншых зусім не мяшаецца.

**Магда**. Дай Божа!

**Алеся** (паказваючы направа). А што там ёсьць за тымі дзьвярыма?

**Янка**. Пэўна яшчэ яго пакоі! Там пэўна сьпіць!

**Алеся**. Пойдзем паглядзім.

**Магда**. Эй ня трэба, ён сам пакажа.

**Янка**. Што мы маема яго чакаць. Пойдзем самі дый толькі. Я вас завяду!

**Магда** (прытрымоўваючы). Эй, стары, пачакай.

**Янка**. І чаго ты баішся? Хадзі!

**Магда**. А ня сьцягне тут хто нашых клумкаў?

**Янка** (адчыняючы дзьверы). Старая, а дурная! Хто-бы тут можа сьцягнуць? У Варшаве няма зладзеяў, ды сюды іх ніхто й ня ўпусьціць. (Выходзяць).

**Зьява IV.**

**Пранцішак — пасьля Якуб.**

**Пранцішак** (уваходзіць, разглядаецца). Што-ж, пашлі? Прасіў іх каб хвіліну пачакалі; ўрэшце лепей, бо кожная гутарка з імі мяне мучыць. Заўсёды трымаць сябе на повадзе, каб ня выскачыць з сваім пахаджэньнем, гаварыць аб радні і адносінах выдуманых!.. А яны, як на злосьць, хватаюць за словы і ня раз мне здаецца, што нешта яны дадумваюцца. Такое жыцьцё мучыць мяне і часам шкадую, што запрогся ў гэту тачку і ўжо гэтулькі гадоў яе цягну. Ці-ж ня лепш селяніну ў вёсцы? Ці, ў сто разоў не шчасьлівейшы той, хто любіць свой родны загон, душой і целам прывязаны да той зямлі, дзе радзіўся? Толькі пад роднай страхой знойдзеш шчырасьць і праўду і там знойдзеш каханьне таго, што сваё... А тут? Няма што казаць, бо інакш мусіў-бы сабой пагарджаць, хаця-б за тое, што, ўзьдзеўшы гэту вопратку вышэйшага сьвету, забыўся аб сваім родзе, аб тых, каторыя далі мне

